# "АДКУЛЬ НАШ РОД"


Уладзімір Арлоў

**Вось як ужо другі год запар увесну наведвае наш горад Уладзімір Арлоў – знакаміты беларускі гісторык, пісьменнік, паэт і мовазнаўца.**

Гэтыя прыезды ладзіць берасцейская філія "Маладога Фронту", з якой спадар Арлоў мае даўнія добрыя стасункі. Кожны раз ён прывозіць з сабою нававыдадзеную кнігу, летась гэта была "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", а на гэты раз – "Адкуль наш род". Кніжка складзена з апавяданняў па гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў, у якую ўвайшлі пазнавальныя і займальныя гістарычныя падзеі беларускай зямлі. Сярод герояў кнігі – князь Рагвалод і асветніца Еўфрасіння, Вітаўт Вялікі і канцлер Леў Сапега, ваяводы Канстанцін Астрожскі і Ян Кароль Хадкевіч, правадыры паўстанцаў Эмілія Плятэр і Кастусь Каліноўскі, пісьменнікі Францішак Багушэвіч і Максім Багдановіч... Прадмову да кнігі напісаў народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін:

*Адкуль наш род?*
*Ён з даўніны, з вячніны,*
*Ад крывічоў пачатак свой вядзе.*
*Нашчадкі Каліноўскага, Скарыны*
*Са сцежкі веры не сыйшлі нідзе.*

У Берасці Уладзімір Арлоў перш найперш сустрэўся са сваім сябрам мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом, які ў 1997 годзе завяршыў пяцігадовую працу над стварэннем вобразу Крыжа святой Еўфрасінні, а цяпер працуе над футлярам для гэтага Крыжа. Затым спадар Арлоў правёў тры сустрэчы з навучэнцамі берасцейскага Ліцэю № 1, падчас якіх ён распавядаў пра сваю творчасць, чытаў вершы, эсэ і, зразумела, адказваў на пытанні ліцэістаў. Асаблівую цікавасць у навучэнцаў і выкладчыкаў Ліцэю выклікала аўтарскае эсэ «Незалежнасьць», якое слухачы прасілі пачытаць на кожнай сустрэчы. Увечары таго ж дня адбылася яшчэ адна сустрэча ў актавай залі берасцейскай абласной бібліятэкі, якая сабрала шмат зацікаўленых гісторыяй і літаратурай.

Прачытаўшы любую з кніг Уладзіміра Арлова, чытач ужо ніколі не забудзецца адкуль наш род. Любы жадаючы мог набыць дзве яго апошнія кнігі з аўтографамі.

*Сяржук Бахун*

*P.S. Кніжкі У.Арлова "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" і "Адкуль наш род" можна замовіць па тэл. 24-54-56.*

## НОВЫ ДАПАМОЖНІК ПА ГІСТОРЫІ

**У Лёзне (Віцебская вобласць) пры дапамозе Віцебскага аддзялення фонду імя Льва Сапегі ў хуткім часе заплянаваны выхад кнігі-дапаможніка настаўніка гісторыі Міхася Космыкава «Хвала бацькаўшчыне».**

У ёй цікаўныя знойдуць напрацоўкі для факультатыву па краязнаўстве Лёзненшчыны (іх можна выкарыстаць і ў любым іншым рэгіёне Беларусі) для 7-9 клясаў. Таксама прыцягнуць увагу распрацаваныя спэцкурсы: «Славутыя імёны бацькаўшчыны», дзе разглядаюцца найбольш яскравыя постаці гісторыі Беларусі; «Культура Беларусі ад старжытных часоў да сучаснасці», дзе акрамя ўласна беларускай культуры разглядаюцца культуры нацыянальных меншасцяў і ўнёсак беларусаў у культуры суседніх народаў; «Асоба ў гісторыі», прысьвечаны славутым замежнікам. Ёсць распрацоўкі па ўроках гісторыі Беларусі паводле сыстэмы Шаталава і самога Міхася Космыкава. Прапануецца таксама літаратурна-музычная кампазыцыя, прысвечаная паўстанню Кастуся Каліноўскага.

# "БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ ПОЛЬШЧЫ"

**12 красавіка ў актавай залі старога корпусу БрДУ праходзіла сустрэча з беларускім паэтам і перакладчыкам Янам Чыквінам.**

Зараз спадар Ян выкладае ў Варшаўскім універсітэце, кіруе літаратурным аб'яднаннем "Белавежа", якое існуе з 1958 г., і стала жыве ў Польшчы. Але з Берасцем ён знаёмы даволі добра – адзін год Чыквін чытаў спецкурс у нашым унівэрсітэце. Пачатак сустрэчы паклала прадмова Зоі Мельнікавай, якая ўзначальвае ТБМ у Берасці, дабрыя словы ў адрас госця былі выказаны і загадчыкам кафедры беларускага мовазнаўства Уладзімірам Сенькаўцом.

Спадар Ян прыехаў у Берасце з нагоды прэзентацыі сваёй новай кнігі "Беларускія пісьменнікі Польшчы", у якую ўвайшлі паэтычныя і празаічныя творы беларусаў у эміграцыі. Берасцейскія студэнткі распявадалі пра свае ўражанні ад кнігі, знаёмілі прысутных з творамі, якія іх найбольш закранулі, а таксама задавалі пытанні. Прыводзім некаторыя пытанні і скарочаныя адказы на іх.

**-- Што для Вас значыць Айчына?**

Ёсць паняцце вялікай Айчыны і малой Айчыны. Малая Айчына – гэта мой дом, мая вёска. Усе мы – беларусы ў Польшчы – называем і адчуваем сабе беларусамі, але асяроддзе думае пра нас іншае: у Мінску мы з'яўляемся палякамі, бо даўно жывем у Польшчы, а ў Варшаве мы – не палякі, бо мы - іншыя. Мы не адчуваем, што наша вялікая Айчына зацікаўлена намі.

**-- Вы – паэт. Што такое паэзія?**

Анонінам паэзіі магчыма назваць лірыку. А паэзія – гэта толькі тое, што ўваходзіць у кола лірыкі, што не можа быць інакш выказана. Тэксты, якія могуць быць перададзены ў іншым жанры, ужо не будуць паэзіяй.

**-- У Варшаве на філалагічным факультэце таксама больш дзяўчынак?**

Так, гэта праўда, але цяжка знайсці падставу гэтаму. Як і ў вас, у нас заўважна своеасаблівая фемінізацыя філалагічнага факультэту. Гэта мае як свае добрыя, так і злыя бакі. Я лічу, што такое становішча прывядзе к адсутнасці агрэсіі ў добрым сэнсе ў літаратуры, пазбавіць здаровай актыўнасці.


Ян Чыквін

**-- Ці заўважна розніца паміж Савецкай Беларуссю і сённяшняй Беларуссю?**

Зразумела розніца ёсць і яна не толькі знешняя. Я лічу, што зараз няма страху, можна свабодна абменьвацца поглядамі. Напрыклад, паглядзіце – мы змаглі тут сабрацца. Хаця, я не магу і не адзначыць, што існуюць памылкі Прэзідэнта ў дачыненні мовы і яе носьбітаў. Мы ў Польшчы выдаём кніг на беларускай мове больш, чым вы самі ў Беларусі.

Напрыканцы сустрэчы жадаючыя маглі атрымаць аўтограф Яна Чыквіна.

*Аляксандра Яўлампіеўна*

*P.S. Месца сустрэчы і аудыторыя адклалі свой адбітак на атмасферу. Усё гэта было крышачку афіцыйна: словы дэкана, тэлебачанне, выказванні студэнтак па шаблону з падручніка па беларускай літаратуры. І прысутная моладзь адчувала сябе не як на сустрэчы з цікавай асобай, а як на абавязковым занятку.*

# Участие общественных организаций в Глобальном движении в интересах детей

*Продолжение. Начало в «Каліва» №3.*

При всем разнообразии задач, которые решают общественные организации в соответствии со своими уставами можно выделить несколько моментов, которые позволяют включить самые различные организации в Глобальное движение в интересах детей так как:

· **положение каждого конкретного ребенка является личностно значимой проблемой для членов общественного объединения** (в основном дееспособными членами НПО являются граждане в возрасте от 16 лет и старше, т.е. взрослые, которые либо уже являются родителями, либо станут ими в будущем) и **осознается необходимость защищать права каждого ребенка,** не отодвигая более менее благополучных детей в сторону, "мол не до них, помочь бы сиротам, больным, беженцам";

· **общественная организация может выступать как общественный уполномоченный по правам ребенка.** Участие общественных организаций в деятельности по защите детей становится все более распространенным явлением. Чаще всего НПО занимаются именно социальной защитой детства и не заявляют о себе как об омбудсмене по правам ребенка. Поэтому особенно интересен опыт работы Маннергеймской лиги содействия охране детства (Финляндия) и Национального совета по охране детства. (Израиль). Финансирование деятельности этих организаций осуществляется за счет частных фондов, что создает финансовую независимость и определенную свободу действий в анализе и контроле за деятельностью правительства и государственных служб по вопросам, касающихся интересов детей;

· **совместная деятельность взрослых и детей** в условиях общественного объединения является одним из наиболее эффективных путей социализации подрастающего поколения, а так же реализует право детей на участие в общественной жизни.

· **информационно-образовательная деятельность:** семинары, конференции, "круглые столы", организация консультативных пунктов. Использование таких форм дает возможность решить одну из важнейших задач - широкое информирование общественности о положении детей, о деятельности по реализации прав ребенка, о деятельности государственных учреждений в интересах детей

**Особая роль принадлежит двум типам общественных организаций, деятельность которых непосредственно может быть направлена на реализацию прав ребенка -- это детские и женские организации.**



**Детские общественные объединения** располагают существенными возможностями для реализации основных жизненных прав детей. На определенном возрастном этапе они выступают важнейшей зоной их становления, социального развития, средой обитания, самовыражения, формирования их социального опыта. На государственном уровне проблема создания, развития и поддержки детских общественных объединений нашла свое решение в принятии Закона Республики Беларусь "О государственной поддержке молодежных и детских общественных объединений в Республике Беларусь" и целом пакете документов, направленных на реализацию этого Закона.

**Женские организации** в сложившейся ситуации консолидируют стихийную женскую активность в организованную и целенаправленную деятельность, направленную на решение проблем социальной сферы. Женщины активно включаются в построение гражданского общества, объединяясь в различные ассоциации, что дает им возможность влиять на процессы, происходящие в обществе, сплоченнее бороться за реализацию не только своих прав, но и прав детей.

Однако, как показал анализ, распространение сферы деятельности женских организаций очень ограничено, так как доля женских объединений составляет 1-2 % от общего числа НПО. При всем разнообразии женских организаций при включении в Глобальное движение в интересах детей их может объединять одно общее направление в деятельности – оказание различного рода социальных услуг, осуществление социальной защиты, т.е. "деятельности, направленной на защиту женщин и детей, оказавшихся в особо трудном положении".

Применительно к женским организациям, это помощь женщинам, нуждающимся в экстренной социальной помощи (многодетные семьи, разведенные женщины, вдовы, беженки, переселенцы, пожилые женщины, учащиеся ПТУ и студентки 1-х курсов, приехавшие на обучение в другой город, и другие.)

Женские организации чаще всего привлекаются собственные резервы и формы активизации женщин: всевозможные ярмарки, выставки изделий, изготовленных женщинами, сбор одежды, не дожидаясь внешнего финансирования. Как правило, средства, собранные от подобного рода мероприятий, идут на помощь наиболее депривелигированным слоям населения.

Приведенный в сообщении анализ деятельности общественных организаций ни в коей мере не претендует на полноту освещения проблемы. Хочется верить, что консолидация всех сил гражданского общества в решение проблем детства выведет Республику Беларусь на более высокий уровень социальной активности, а значит, улучшит нашу жизнь и жизнь наших детей. Поворот общественного сознания в сторону детей уже происходит, но важно, чтобы он шел интенсивнее. Дети не могут ждать, они растут и развиваются, а в наших силах создать мир для детей вместе с детьми.

*Степанова Тамара Михайловна,*
*ст.преподаватель кафедры педагогики начального обучения БрГУ им. А.С.Пушкина.*

## ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЗІЦЯЧЫХ ІНІЦЫЯТЫВАЎ

**9 красавіка пабачыў сьвет першы нумар Інфармацыйнага бюлетэня дзіцячых ініцыятываў.**

Выдавацца ён будзе ў межах праекта **«Глябальны рух у інтарэсах дзяцей»** інфармацыйнай групай Мінскага каардынацыйна-інфармацыйнага Цэнтра дзіцячых ініцыятываў. У нумары зьмяшчаецца інфармацыя аб дасягненьнях рэалізацыі дадзенага праекту на Меншчыне і ў сталіцы, а таксама аб дзейнасці дзіцячых ініцыятываў рэгіёну.

**Бюлетэнь можна атрымаць бясплатна як у папяровым, так і ў электронным варыянце.** Падпіска афармляецца на чатыры нумары (красавік, май, чэрвень, ліпень). Для замовы неабходна накіраваць пісьмовы запыт у адвольнай форме на наступныя **адрэсы**:

Папяровы варыянт: вул. К. Маркса, 40, офіс 57, г. Мінск, 220030 (з пазнакай «Мінскі КІЦ»).

Электронны варыянт: rada@user.unibel.by (з пазнакай «Мінскі КІЦ»).

## Тэма сёняшняй нашай цікавосткі

# АЛЬПІНІСТЫКА або АЛЬПІНІЗМ




**Пад альпінізмам, альпіністыкай, у дакладным гэтага слова значэнні, мы разумеем тую галіну спорту, якая займаецца вандроўкамі ў горы і здабыццём горных вяршыняў. У больш шырокім значэнні, альпінізм - гэта спартыўная, навуковая або мастацкая дзейнасць у галіне горнага свету наогул. Альпінізм трэба разумець як імкненне чалавецтва супрацьпаставіцца да паглынання яго цывілізацыяй, у роўнай ступені як псіхічна, так і фізычна. Такім чынам, у некаторым сэнсе, альпінізм - гэта "вяртанне да прыроды". Альпінізм, як з"ява, нарадзіўся адносна не так даўно, але за час свайго існавання карэнным чынам змяніў адносіны еўрапейца да горнага свету.**

**У стражытнасці,** а асабліва ў сярэднявеччы, чалавек не ведаў радасці зносінаў з гарамі. Войскі Ганнібала адчувалі страх перад агромінай Альпаў. Ціт Лівій у сваіх пісьмовых зацемках перадае тое адчуванне няпрыязні, якое ўзнікае ў яго ў адносінах да агромністых гор. Юлій Цэзар бавіць час пераправы праз Альпы напісаннем літаратурнага твору. Сярэднявечныя забабоны малююць высокія горы як месца, дзе гарэзвяцца пачварныя дэманы. Так, напрыклад, нейкі радчы места Люцерны забараніў у XIV стагоддзі, пад пагрозай цяжкай кары, укрочванне ў абсягі Пілацкіх гор, бо паводле чутак, знаходзіўся там дух вечнага вандроўніка, намесніка Палестыны. Таму нельга было замінаць ягонай адзіноце, без шкоды для горада.

**Толькі ў 1513 годзе з"яўляецца першая мапа Швейцарыі.** А ўжо ў 1541 годзе вядомы натураліст і лекар з Цюрыху Конрад Геснер піша свайму сябру: "...маю намер кожны год здабываць некалькі або хаця б адну вяршыню, каб з аднаго боку пашырыць свае веды пра расліны, а з другога – узмацніць цела і асвяжыць дух". Падчас імклівага росту навуковых даследванняў у эпоху Асветы, канчаткова знікаюць сярэднявечныя забабоны і прымхі. Адчыняе гэты перыяд "айцец альпіністыкі" Ян Якаб Шейцар (1662—1713), лекар і адначасова даследчык прыроды з Цюрыху. Ён вандраваў па швейцарскіх Альпах як фізік і матэматык. Перасягнуў яго, аднак, на гэтай ніве, ягоны вучань, лекар і паэт з Цюрыху Альбрэхт фон Халлер (1708—1777), паэма якога "Альпы" (1729), напісаная александрыйскім вершам, прыцягнула ўвагу ўсяго цывілізаванага свету. Трэба адзначыць, аднак, што найвялікшых і найістотнейшых вынікаў у справе ўсхвалення прыроды дасягнуў французскі мысліцель і пісьменнік Жан Жак Руссо (1712—1778). Ягоныя творы з"явіліся тым праменнем, якое дапамагло адкрыць яе прыгажосць у новым святле.

Нягледзячы на гэтыя поспехі, усё яшчэ маленькай і адасобленай застаецца група піянераў, якія бясстрашна здабываюць недасягальныя вяршыні. Людзі не разумеюць іх, мы і дасюль не можам у поўнай меры ацаніць значнасць іх тагачаснай дзейнасці.

**Першы раз на вяршыню Монблана** ўзышлі ў жніўні 1786 года альпійскія праваднікі Ж.Бальма і Ф.Паккар, а 3 жніўня 1787 года на Монблан з групай з 18 праваднікоў узыходзіць сам Соссюр. Піша пра гэта: "...у мяне было ўражанне, што я сам адзін перажыў сусвет і бачыў ягоныя рэшткі ля маіх стопаў". Але толькі ўдасканальванне сродкаў камунікацыі дало магчымасць развіцця больш шырокай дзейнасці на гэтай ніве. Пасля будаўніцтва першых альпійскіх чыгунак край набаднілі ангельцы. Яны заклалі першае альпійскае таварыства "Alpine Club" у 1857 годзе.

**XX стагоддзе значна пашырыла геаграфічныя межы альпіністыкі.** Засвайваліся горы Канады, Афрыкі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, рыхтаваліся экспедыцыі ў Каракорум, Гіндукуш, Гімалаі. Альпіністы здабылі Кіліманджаро, Аконгакуа, Мак-Кінлі. Яшчэ ў 1828 годзе ангельскі тапограф К.Жэрар узышоў на адзін з гімалайскіх шасцітысячнікаў; у 1903—1907 гадах людзі з"явіліся на высаце больш за 7.000 метраў. У 1908 годзе Э.Шэклтан здабыў Эрэбус (3.794 м) у Антаркціке. У 1924 годзе Е.Нортан на Эверэсце (Джамалунгма) здолеў дасягнуць 8.570 м. У 1950 годзе французы М.Эрцог і Л.Ляшэналь узышлі на Аннапурну (8.078 м). У 1953 годзе навазеландзец Э.Хіллары і шерпа Тенсінг Наргей дасягнулі самай высокай кропкі Зямлі – вяршыні Эверэста. Барацьба за высотныя прыярытэты скончылася. З 1954 па 1964 годы былі здабытыя вяршыні ўсіх апошніх васьмітысячнікаў Зямлі.

**Сапраўднай легендай альпіністыкі XX стагоддзя з"яўляецца бясспрэчна нямецкі альпініст Райнхольд Месснер.** Здабыўца васьмітысячнікаў, яму належыць тэхніка хуткага гораўзыходжання і ўзыходжання без кіслародных масак. Пальму першанства па хуткасці ўзыходжання аспрэчваў у Месснера таксама вельмі слаўны і вядомы альпініст – паляк Ежы Кукучка.

**Што тычыцца ўкладу беларусаў** у развіццё альпіністыкі, дык гэтае пытанне трэба, напэўна, разглядаць у кантэксце развіцця альпінізму ў царскай Расіі, а затым у Савецкім Саюзе. Магчыма, што прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага таксама прымалі ўдзел у агульным тагачасным захапленні Альпамі, але развіццё альпіністыкі прыпала на XIX стагоддзе, калі нашую Радзіму сатрасалі нацыянальна-вызваленчыя паўстанні супраць акупацыі ўсходняй суседкай нашых земель і ліквідацыі незалежнасці краіны. Магчыма таксама, што заходнія беларусы ў 1918 – 1939 гг. нейкім чынам маглі прымаць удзел ў дзейнасці польскіх альпклубаў або экспедыцыяў.

**З гісторыі развіцця альпінізму ў Расійскай імперыі** можна адзначыць той факт, што да пачатку XX стагоддзя гораўзыходжанні былі вельмі рэдкімі. У 1788 годзе ўдзельнікі расійскай даследчыцкай экспедыцыі – Д.Гаўсс з сябрамі – ўзышлі на вулкан Ключэўская сопка (4.750м). У Андах здзяйсняў узыходжанні расійскі географ А.Чыхачоў. У 1829 годзе было здзейснена першаўзыходжанне на Вялікі Арарат (5.156м).

**Пасля пакарэння Каўказа**, расце зацікаўленасць ягонай прыгожай горнай прыродай, дый вайсковая прысутнасць у гэтым рэгіёне дыктуе расійцам неабходнасць больш дакладнага вывучэння мясцовасці. У 40-х гадах XIX стагоддзя сіламі расійскіх вайсковых тапографаў праводзілася трыангуляцыя Закаўказзя і часткі Галоўнага Каўказскага хрыбта. Працамі па трыангуляцыі кіраваў палкоўнік Юзаф Ходзька (1801—1880 гг.). Выдатны тапограф-геадэзіст, выхадзец з кола віленскіх філарэтаў, на расійскай ваеннай службе займаўся геадэзічнымі працамі напачатку ў балтыцкіх губернях; у 1847—1853 на паўднёвым Каўказе, Арменіі (1854), паўночным Каўказе (1859—1866) і Закубанскім Краі. Здабыў Арарат. Магчыма, Юзафа Ходзьку можна разглядаць як першага нашага земляка, які бясстрашна пакараў горныя вяршыні.



**У 1845 годзе было ўтворана Расійскае геаграфічнае таварыства**, пад эгідай якога праводзіліся геаграфічныя даследаванні гор. У 1900 годзе па ініцыятыве навукоўцаў і альпіністаў было ўтворана Расійскае горнае таварыства. Таварыства выдавала свой "Штогоднік" (1901—1913 гг.), дзе змяшчаліся публікацыі пра горныя вандроўкі і ўзыходжанні, вялася хроніка альпінісцкіх падзеяў, друкаваліся вынікі даследванняў.

**Пасля ўсталявання савецкага рэжыму** ў самой Расійскай імперыі і на яе нацыянальных "акраінах", альпінізм стаў развівацца буйней. Савецкае кіраўніцтва надавала вялізарнае значэнне вайскова-патрыятычнаму і спартоваму выхаванню новай нацыі. Альпінізм з ягонай рамантыкай, выхаваннем сілы духу і волі да перамогі, вельмі добра ўпісваўся ў новую ідэалогію. З таго часу, па сутнасці, альпінізм на тэрыторыі краіны Саветаў пачынае развівацца як масавы спорт.

**Гісторыю савецкага альпінізму прынята адлічваць ад узыходжання ў 1923 годзе на Казьбек дзвюх груп грузінскіх студэнтаў і навукоўцаў – пад кіраўніцтвам прафесароў Г.Мікаладзе і А.Дзідзебулідзе.** У наступныя гады альпінізм набірае моц пры падтрымцы камсамолу і прафсаюзаў. На прадпрыемствах пачалі ўзнікаць горныя секцыі, якія аб'ядноўвалі энтузіястаў альпінізму. У 1938 годзе была ўтворана Ўсесаюзная секцыя альпінізму (пазней рэарганізаваная ў Федэрацыю альпінізму СССР), намаганнямі якой упершыню былі распрацаваны дакументы, якія рэгламентавалі дзейнасць усёй навучальна-спартыўнай сістэмы альпінізму: першыя "Правілы гораўзыходжання ў СССР", класіфікацыя маршрутаў, праграмы і навучальныя планы падрыхтоўкі альпіністаў, "Палажэнне пра інструктароў альпінізму".

К пачатку 1940 году ўзровень спартыўнай падрыхтоўкі лепшых савецкіх каманд амаль не саступаў сусветнаму. Падчас II Сусветнай вайны шмат хто з альпіністаў прынялі ўдзел у ваенных дзеяннях у складзе спецыяльных горных падраздзяленняў, шмат з іх загінула. У пасляваенныя гады пачала адбудоўвацца сістэма альплетнікаў і падрыхтоўкі інструктароў. Ствараліся стацыянарныя альпінісцкія і горналыжныя базы на Каўказе, Паміры і Цянь-Шані. Пры вышэйшых навучальных установах і на буйных прадпрыемствах ствараліся альпінісцкія секцыі, на базе якіх затым рыхтаваліся альпінісцкія каманды.

**Пасля распаду Савецкага Саюзу масавы альпінісцкі рух занепаў.** Паколькі з'ява гэтая, як і ўсё ў Савецкай краіне, абслугоўвала пануючую ідэалогію, разбурэнне апошняй пацягнула за сабой разбурэнне ўсіх яе складнікаў. Камунікацыі паміж новаўтворанымі незалежнымі краінамі былі парушаны, у першую чаргу па эканамічных прычынах. Ваенныя дзеянні, якія то там, то тут успыхвалі на Каўказе таксама не садзейнічалі развіццю альпіністыкі і горнага турызму. У такіх умовах альпінісцкая інфраструктура Каўказа патроху разбуралася, шмат базаў і горналыжных курортаў прыйшлі ў занепад. Такі накірунак альпіністыкі, як горны турызм знік амаль зусім. Трохі лепшы лёс напаткаў памірскія, цянь-шаньскія і алтайскія альпінісцкія пляцоўкі, але агульны занепад закрануў і іх.



**Беларускія альпіністы ў новых умовах сутыкнуліся перад усім з адсутнасцю сваіх гор**, але галоўнай перашкодай была ўсё ж такі – адсутнасць матэрыяльных сродкаў, каб рыхтаваць каманды і здзяйсняць гораўзыходжанні па-за межамі краіны. Структура падрыхтоўкі маладых інструктароў і спартоўцаў таксама была амаль паўнасцю разбурана. Але ўсё ж такі мы можам ганарыцца нашымі землякамі.

Нягледзячы на ўсе складанасці нашага жыцця, яны змаглі арганізаваць у 1994 годзе ўзыходжанне на трэцюю вяршыню планеты – гару Канчэнджангу (8.586м) у Гімалаях. Вось імёны гэтых герояў: Сяргей Новікаў, Эдуард Ліпень, Леанід Лазоўскі, Віктар Кульбачэнка, Ірына Вяленкова, Валерый Маісеенка, Сяргей Жвірбля, Аляксандр Дуброўскі. Першапачаткова экспедыцыя рыхтавалася як толькі беларуская, але затым яна перарасла ў міжнародную, да нашых далучыліся альпіністы з Расіі: Кацярына Іванова і Аляксей Седоў, а затым балгары: Іорданка Дзімітрава і Барыслаў Дзімітраў. Аднак, на вяршыню Канчэнджангі ўзышоў толькі адзін удзельнік экспедыцыі – беларускі альпініст Віктар Кульбачэнка і над трэцяй па вышыні вяршыняй Зямлі залунаў бел-чырвона-белы сцяг. На жаль, горы не меюць жалю да чалавечага жыцця, часам яны бяруць надзвычай дарагую плату за пакарэнне вяршыняў і права любавацца іх прыгажосцю. Гэтая экспедыцыя ўнесла жыцці трох альпіністаў: гэта расіянка Каця Іванова, балгарка Іорданка Дзімітрава і наш Сяргей Жвірбля.

Напрыканцы хочацца пажадаць усім гэтым па-сапраўднаму мужным і моцным духам людзям, усім нашым вядомым і не вельмі вядомым альпіністам крэпкага здароўя і здабыцця новых вяршыняў, а беларускай альпіністыцы добрых спонсараў і шчодрых мецэнатаў. Хочацца таксама верыць, што прыгажосць горнай прыроды будзе знаходзіць усё больш прыхільнікаў сярод беларускай моладзі і такая з'ява, як беларускі альпінізм, не знікне назаўсёды з адыходам апошніх "снежных барсаў" беларускай альпіністыкі.

## УЗАЕМНАЯ СТРАХОЎКА — АСНОЎНАЯ ФОРМА БЯСПЕКІ І ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ АЛЬПІНІСТАЎ

Альпінізм, акрамя выхавання волі да перамогі і добрай фізычнай падрыхтоўкі, цікавы яшчэ і тым, што фармуе іншы падыход да жыцця, іншы погляд на суадносіны паміж людзьмі, своеасаблівы маральны кодэкс паводзінаў.

Тое, што наша сённяшняе беларускае грамадства знаходзіцца ў духоўным крызісе, аспрэчваць мала хто возьмецца. Тое, што людзі разрозненыя паміж сабой, кожны паасобку імкнецца дасягнуць поспеху, часам выкарыстоўваючы і падстаўляючы сваіх паплечнікаў, таксама навіной не з'яўляецца. Цікава было б задацца, часам, такім пытаннем: «Хто з тых лідараў, якіх мы сабе выбіраем, вытрымаў бы выпрабаванне гарамі? На каго з нашага асяроддзя, з кола нашых сяброў і знаёмых мы можам разлічваць як на сябе, да канца, без сумнення? І ці самі мы гатовы дзеля тых, хто абок, ахвяраваць сабой, дапамагчы падняцца, калі нехта упаў, падстрахаваць, калі трэба? Бо жыццё, па вялікаму рахунку, гэта таксама ўзыходжанне на гору. І як часта на нашых вачах, "зрываюцца і ляцяць" уніз нашыя сябры, тыя, хто ішоў перад намі або абок нас. І як часта мы адварочваемся і робім выгляд, як быццам іх ніколі не ведалі, ці быццам нічога не здарылася. Каб пайсці іх шляхам, без страхоўкі і таксама сарвацца, пад задаволеныя позіркі і зларадныя шыпенне нашых, учарашніх яшчэ, сяброў, паплечнікаў і аднадумцаў.

Альпіністы заўсёды знаходзяцца ў звязцы. Ніводзін не можа дасягнуць вяршыні і застацца на ёй без дапамогі сяброў, без тых, з кім ён разам лез угору, пераадольваў цяжкасці, дзяліў гора няўдачаў і радасці перамогаў. Без гэтага рухацца наперад у гарах проста немагчыма. У нашым жыцці таксама немагчыма, але наш раўнінны менталітэт, несуразмерныя амбіцыі кожнага, прага да ўлады над іншымі, жаданне маніпуляваць і загадваць, гуляць і распараджацца чужым лёсам, зайздрасць да чужога поспеху, халопская звычка выслужвацца за чужы рахунак, наступаючы на галавы сваім паплечнікам, замінае гэтаму разуменню. Можа нам, Беларусам, сапраўды не хапае гор і "Маральнага кодэксу альпініста", каб стаць нацыяй і "каб урэшце людзьмі звацца"?

*Камілія Куліцкая*

# Роль интеллекта в процессе самопознания собственной пустыни ума




*Продолжение. Начало в № 3 (21)*

**Существует утонченная теория, объясняющая наличие дурацких ситуаций в любой организации. В двух словах она такова: люди - идиоты...**

В большинстве наших текущих проблем я виню секс и бумагу. Вот моя логика. Только один человек из миллиона достаточно сообразителен, чтобы изобрести печатный станок. Поэтому, когда общество состояло всего из нескольких сотен обезьяноподобных людей, живших в пещерах, вероятность того, что один из них является гением, была довольно низка. Но народ продолжал заниматься сексом, и с каждым придурком, добавлявшимся к популяции, вероятность того, что через генетическую сеть проскользнут какие-то выродки-умники, становилась всё выше и выше. Когда в наличии есть несколько миллионов людей, причем, все они волей-неволей занимаются сексом, то вполне можно ожидать того, что какая-то беременная мамочка-обезьяночка в один прекрасный день присядет в кустах на корточки и произведет на свет выродка, способного родить печатный станок.

После появления этого станка мы были в значительной степени обречены. Ведь теперь каждый новый умник-выродок, которому брякнула в голову хорошая идея, мог записать ее на бумагу, размножить и поделиться с другими. Его идею можно было развивать. Цивилизация взорвалась. Родилась технология. Сложность жизни стала расти в геометрической прогрессии. Всё становилось больше и лучше. За исключением наших мозгов.

А где-то уже и «Новая жизнь» построена...

Вся техника, которая окружает нас, все теории менеджмента, экономические модели, которые предсказывают и направляют поведение, наука, помогающая доживать до восьмидесяти лет, - всё это создано ничтожным процентом сообразительных выродков. Остальные плывут по течению с такой скоростью, как умеют. Мир слишком сложен для нас. Эволюция не поспевает. Благодаря печатному станку сообразительные выродки сумели зафиксировать достижения своего гения и сообщить их другим без привлечения генетики. В процессе эволюции произошло короткое замыкание. Мы обрели знания и технологию прежде, чем интеллект.

Мы являем собой планету, где почти шесть миллиардов простофиль живут в условиях цивилизации, разработанной несколькими тысячами поразительно умных выродков.




**Уточняем, что приведенная нами в предыдущем номере теория эволюции идиотов, а также сегодняшние размышления об успешной миссии в организации своврованы из книги Скотта Адамса «Принцип Дилберта», объясняющей реалии офисной жизни. Дилберт – это персонаж комиксов с прямоугольной головой и железной логикой.**

**Предупреждение: чтение нижеизложенного материала неподготовленным 13-ым сектором членом может привести к расстройствам, ответственность за которые редакция на себя не берет.**

Теперь обратимся к ячейке общества -- к организации:

## Часть 1. Декларация миссии

Если члены вашей организации плодят низкокачественные семинары на совершенно бесполезную тему, которые никакое психически нормальное лицо не посетит даже под дулом пистолета, эту проблему часто можно смягчить, проводя множество совещаний с целью обсудить декларацию миссии организации.

Формальное определение декларации миссии таково: длинное неуклюжее предложение, которое демонстрирует неспособность лидера к ясному мышлению. Её имеют все уважающие себя организации.

Организации, не располагающие декларацией миссии, зачастую ошибочно полагают, что их цель состоит в препирательствах между лидерами, в дележе гранта и медленном приближении к распаду. Этот неверный подход можно легко излечить, написав декларацию миссии примерно такого типа:

> *«Используя динамику всесторонне полномочной команды в новой парадигме тотального демократизма, сражаться за каждого клиента до его конца, пока мы окончательно не построим правовое государство».*

Но это не означает, что все свободны и можно разойтись. Декларация миссии организации будет бессмысленна, пока все ее программы не заимеют свои собственные декларации миссии с целью поддержать генеральную миссию организации. Обязательным условием для вечного творческого поиска декларации миссии являются общие собрания как минимум раз в полгода для пересмотра декларации миссии организации.

Сами по себе декларации миссии не означают ровным счётом ничего. Однако они, конечно же, подвигнут членов команды на достижение ещё больших недостижимых высот.

*Продолжение следует*

**В.а. галоўнага рэдактара:** Якаў ЛАМПІЙ
**Карэктар:** Люся НЕВЯДОМАЯ
**Макет і вёрстка:** Людміла ШАЙДЗЯНКОВА




Падпісана у друк 22.05.2001 г. у 16.00
Наклад 299 ас.

*Звярстана на настольна-выдавецкай сістэме Берасцейскага Цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятываў «ВЕЖА».*

*Друкуецца на правах унутранага карыстання*